# Ніва

 БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК 

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (821) ГОД XVI БЕЛАСТОК 21 ЛІСТАПАДА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


ВЫХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ

## НАВУКА РОДНАЙ МОВЫ ВЫХОЎВАЕ

«Школа павінна ўкараняць каштоўнасці сацыялістычнай ідэалогіі: сацыялістычнага патрыятызму, інтэрнацыяналізму, сацыялістычных адносін да працы і грамадскай уласнасці, а таксама выхоўваць маральную ўражлівасць, гуманізм і адчуванне грамадскай дысцыпліны».

Гэтае ўказанне дырэктываў ЦК ПАРП на VI з'езд выразна і дакладна акрэслівае напрамак ідэйнага выхавання маладога пакалення грамадзян Народнай Польшчы. Спрабуем жа глянуць з гэтага пункту гледжання на ход выхаваўчага працэсу ў школах, дзе выступае навучанне беларускай мовы. І мой дванаццацігадовы настаўніцкі і дырэктарскі вопыт з працы ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім, і шматгадовая праца над падручнікамі беларускай мовы і, урэшце, назіранні з журналіцкіх вандровак па школах Беласточчыны якраз заахвочваюць выказвацца ў справе выхаваўчай ролі навучання роднай беларускай мовы ў пачатковай і сярэдняй школах.

Калі сямігадовае дзіця ўпершыню пераступае парог школы, дзе навучаецца яго родная мова, а настаўнік звяртаецца да яго на той мове, на якой з ім гавораць бацькі і родзічы, тады для першакласніка гэты школьны парог не будзе высокім і чужым. Дзіця ўвойдзе ў школу з поўным даверам да яе, да свайго «пана» ці «пані», і потым чароўны свет літар, слоў і сказаў, якія яно пачне пазнаваць за школьнай партай, яго яшчэ мацней захопяць і прыхіляць да вучобы і падпарадкавання школьным правілам. Першакласніка ў такіх умовах абміне шкоднае адчуванне «іншасці» мовы школы ад мовы яго бацькоў. А тым самым і выхаванне малалетка разам з яго прыходам у школу не перацерпіць балючага пералому, яно будзе натуральным працягам хатняга, бацькоўскага выхавання, толькі ўжо ў змененых умовах класнага калектыву ды весці яго будзе адпаведна падрыхтаваны да гэтай адказнай працы настаўнік-педагог. Вельмі разумна паступаюць тыя вопытныя настаўнікі Бельшчыны ці Гайнаўшчыны, калі яны першыя ўрокі з першакласнікамі вядуць на тым дыялекце, на той гаворцы, якая ўласціва мясцовасці, дзе знаходзіцца школа. А затым паволі пераходзяць да ўжывання нарматыўнай беларускай літаратурнай мовы. Яны ўсяляюць у вучня моцнае перакананне яго паўнацэннасці як чалавека, грунтуюць пашану да мовы яго бацькоў, родзічаў, суседзяў, знаёмых. Гэтым жа кладзецца трывалы падмурак любві ў дзіцяці да яго радні, роднай мясціны, ваколіцы, а тым самым і да ўсяго краю.

На ўроках беларускай мовы і ў пачатковай і ў сярэдняй школе многа месца адводзіцца тэмам аб садружнасці і супрацоўніцтве паміж беларускім і польскім народамі ў мінулых стагоддзях і ў нашыя часы. Вучні знаёмяцца

Працяг на стар. 4



Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове.



Новая школа ў Вераб'ях.



Школа ў Крыўцы. Фота: Я. Цялушэцкі

З нагоды Дня настаўніка Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і «Ніва» складаюць усім настаўнікам беларускай мовы, а таксама ўсім настаўнікам, выхавацелям і працаўнікам асветы самыя шчырыя пажаданні плённых вынікаў у іх шляхетнай і адказнай працы над адукацыяй маладога пакалення грамадзян нашай Радзімы — Польскай Народнай Рэспублікі.

Жадаем ім добрага здароўя і шчасця ў жыцці.



## БГКТ ХРОНІКА

■ 29 кастрычніка члены рэвізійнай камісіі Галоўнага праўлення Лідзія Бялецкая і Аляксандр Кунах правялі кантроль статутовай дзейнасці гайнаўскага аддзела БГКТ.

■ 2 лістапада старшыня і сакратар ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк мелі сустрэчу з куратарам Беластоцкай школьнай акругі Эдвардам Крынскім і супольна абмеркавалі праблемы беларускага школьніцтва. Па прапанове прадстаўнікоў ГП куратар даў загад інспектарам асветы ў Саколцы і Сямяцічах арганізаваць метадычныя цэнтры па навучанню беларускай мовы. Супольна было пастаноўлена, што 19 снежня ГП і кураторыя арганізуюць нараду (свайго роду з'езд) настаўнікаў беларускай мовы на Беласточчыне.

■ Прэзідыум гайнаўскага аддзела БГКТ стварыў арганізацыйны камітэт, які будзе займацца конкурсам «Беларуская песня — 72» і аглядам драматычных калектываў. У склад камітэта ўвайшлі наступныя асобы: Аляксандр Лукашук (старшыня камітэта) і Марыя Крук — прадстаўнікі аддзела культуры ПРН, Анна Бандарук — з павятовага праўлення ЗМВ, Юрка Янюк — з ПЗГС-у, Васіль Сачкоўскі і Віктар Бура — з аддзела БГКТ. 3 лістапада гэты камітэт абмеркаваў свае абавязкі.

■ 5 лістапада адбылося пасяджэнне камісіі асветы ГП. Старшыня камісіі Мікола Гайдук паведаміў прысутным аб сустрэчы дэлегацыі ГП і «Нівы» з членам Палітбюро, сакратаром ЦК ПАРП Стэфанам Альшоўскім і аб пытаннях, якія там былі пастаўлены, а таксама расказаў аб ролі камісіі асветы ў падрыхтоўцы канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы. Васіль Сакоўскі паінфармаваў аб арганізацыі конкурсу на беларускую песню сярод школьнай моладзі, а Сяргей Бароўскі (падінспектар аддзела асветы з Гайнаўкі) запрапанаваў арганізаваць конкурс на найлепшую вечарыну з нагоды 90-ай гадавіны з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Прапанова была прынята камісіяй асветы.

■ 6 кастрычніка беларускі хор БГКТ выступіў з канцэртам на акадэміі, прысвечанай 54-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Войшках. (мх)

# ІХ ДНІ

*В а ўсіх людзей дзень дню няроўныя. У кожнага з нас бываюць дні, якія застаюцца ў памяці як шчаслівыя, прыгожыя, светлыя; але і здараюцца трывожныя і цяжкія. Журналіст «Нівы» ў сувязі са святам нашых педагогаў — Днём настаўніка — звярнуўся да настаўнікаў з просьбай расказаць аб найпрыгажэйшых і найцяжэйшых днях у іх працы ў навучанні і выхаванні маладога пакалення. Вось што яны сказалі:*

АЛЯКСАНДР БАРТАШУК — КІРАЎНІК ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ Ў ВОЙШКАХ БЕЛЬСКАГА ПАВЕТА.

— У маім жыцці і настаўніцкай працы было многа і цяжкага і прыемнага. Але ўсё ж, здаецца, прыемныя моманты пераважалі. Найцяжэйшымі гадзінамі я лічу тыя, калі вучні не падрыхтаваны да ўрокаў. Калі ж вучні працуюць салідна, то і асабістыя справы, нават самыя непрыемныя, успрыймаюцца неяк больш пагодна. Прыйшоў я сюды, у Войшкі, дзевяць год таму. Быў я тут чалавекам новым, не ва ўсім арыентаваўся. Але працаваў, колькі было сіл. З бегам часу людзі мяне зразумелі, ацанілі, пачалі гуртавацца вакол школы. І наша школа сваё ўздзеянне расшырыла не толькі на школьнікаў і іх бацькоў, але і на дзяцей дашкольнага ўзросту, выпускнікоў школы, дарослых людзей. Малышы прабываюць у нашай школе ў час летніх канікул у дзяцінцы. Дарослыя сяляне ходзяць сюды ў вячэрнюю пачатковую школу для дарослых. У мінулым годзе сёмы клас гэтай школы закончыла 16 чалавек. Выпускнікі ж нашай школы, якія цяпер вучацца ў сярэдніх школах Бельска ці Беластока або працуюць ужо, арганізавалі мінулым летам гурток БГКТ. Абавязаліся папрацаваць грамадскім чынам на карысць нашай школы: навезці пяску, сплянтаваць яго і выкласці тратуары і ўезд бетоннымі пліткамі. І ў мяне аж сэрца радавалася, калі 17 кастрычніка гэтага года пры школе працавала 20 чалавек нашых былых выпускнікоў, 10 асоб дарослых, сабралася і каля 30 школьнікаў, прыехалі 3 фурманкі, і работа аж кіпела. А быў жа гэта дзень адпачынку — нядзеля. Вось так перастала быць наша школа «будынкам за вёскай», а стала яе своеасаблівым цэнтрам грамадскага і культурнага жыцця. Яна і абгароджана сеткай, і абсаджана дрэўцамі, і мае нядрэнную спартыўную пляцоўку. Тут, у школе, праходзяць сельскія сходы, сходы гуртка БГКТ, адбываюцца сустрэчы з прыезджымі людзьмі, маладзёжныя вечарыны, а калі гурток БГКТ падрыхтуе п'есу, мы яе таксама тут паставім. Вось так колішні цяжкі момант у маёй працы пайшоў у забыццё.

Цудоўнымі бываюць таксама апошнія дні тых чэрвеняў, калі ўсе нашыя васьмікласнікі атрымоўваюць пасведчанні аб заканчэнні школы і паспяхова паступаюць вучыцца далей.

ВАЛЯНЦІНА РАШЧЭНКА — НАСТАЎНІЦА ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ Ў ДАШАХ ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА.

— Я з дзіцячых год марыла быць настаўніцай. Можа таму і найпрыгажэйшым днём для мяне здаецца той, калі ў мяне была першая візітацыя. Як сёння памятаю, было гэта ў 1966 годзе, у апошні тыдзень перад зімовымі канікуламі. Працавала я тады ў вёсцы Грузка, у аднакласнай школе. Сяджу вось так пры глінянай печы, вяду ўрок беларускай мовы ў III—IV класах. Нават тэму памятаю: фармулаванне загалоўкаў да частак аднаго з апавяданняў, што было ў падручніках. І вось уваходзіць у клас інспектар. Прывітаўся і кажа, што ён прыехаў ка мне на візітацыю. Я зусім разгубілася, расхвалявалася, апанаваў мяне нейкі дзіўны жах. Але ўрокі пайшлі цудоўна. Потым інспектар правёў ва ўсіх класах праверку ведаў вучняў — вынікі таксама былі добрыя. Канчаючы візітацыю, інспектар і кажа мне: «Хоць вы працуеце першы год, але і ўрокі вядзеце і вынікі маеце, як у вопытнай шматгадовай настаўніцы». Што і казаць: шэры зудны снежаньскі дзень выдаўся мне тады найпрыгажэйшым ды найсвятлейшым днём!

А вось найцяжэйшы. Быў 1968 год. У лютым я мела здаваць кваліфікацыйны экзамен, але пачала да яго рыхтавацца ўжо з першых дзён верасня. Падрыхтавалася, як належыцца. Настаў экзаменацыйны дзень. Прыехала камісія. Вяду ўрок любімай маёй матэматыкі ў маім найлепшым класе. І што б вы падумалі: «завальваю» яго зусім! Ужо ў час урока я зразумела, што ўрок я «палажыла» па ўсіх правілах, але яшчэ трымалася, панавала над сабою. А вось калі выйшла пасля званка з класа, расплакалася. А камісія, як на злосць, збіраецца ісці на мой наступны ўрок — беларускую мову ў пятым класе. А я зусім да гэтага ўрока не рыхтавалася. Толькі ўсяго, што канспект мела. Ну, думаю, гэта ўжо будзе завяршэнне майго правалу... Урок я мела аб Кастусю Каліноўскім. І прайшоў жа ён у мяне дасканала. Камісія ацаніла яго на «выдатна», была захоплена гэтым урокам. І з прызнаннем мне кваліфікацый не было ніякіх праблем.

АНДРЭЙ МАНЦЮК — КІРАЎНІК ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ Ў РАГАЧАХ СЯМЯЦІЦКАГА ПАВЕТА.

— Гэта не быў адзін дзень, быў гэта ў маёй працы найцяжэйшы перыяд. А было гэта даўнавата, у 1960 годзе, тут, у школе ў Рагачах. Сярод школьнага года раптам адышоў да працы ў аддзеле асветы ў Сямяцічы кіраўнік нашай школы. а на яго месца на кіраўніка паставілі мяне. Я ж усяго тры гады як працаваў настаўнікам. Вопыт, вядома, у мяне невялікі, а ў школе звыш 150 дзяцей і моладзі ды пяць настаўнікаў, амаль што маіх аднагодкаў! Ад чаго тут пачынаць? А праз некалькі дзён трэба весці і педагагічны савет, і зараз жа мае адбыцца бацькоўскі сход. Мой першы педагагічны савет быў незвычайны. Я проста пытаў сваіх калегаў-настаўнікаў, што і як будзем рабіць у школе. А першы сход бацькоў? Падрыхтаваўся я да яго на пісьме салідна, але ні людзей у зале я дакладна не бачыў, ні свайго выступлення толкам прачытаць не змог. Аднак і настаўнікі мне дапамаглі ў працы, і бацькі са зразуменнем аднесліся да мяне. І цяжкі перыяд незаўважальна прамінуў.

Найпрыгажэйшым жа момантам у маёй працы быў дзень, калі наша школа атрымала вось гэты сучасны школьны будынак, а настаўнікі — дом настаўніка. Было гэта ў 1969 годзе. Абодва будынкі каштавалі тры мільёны злотых, яны ўзведзены за сродкі з грамадскага фонду будовы школ і інтэрнатаў. Школьны будынак складаецца з 6 класаў, 1 класа-кабінета, фізкультурнай залы, дадатковых памяшчэнняў. Класы і калідоры прасторныя, светлыя. У школе і настаўніцкім доме цэнтральнае аграванне, вада з гідрафорні. Школа стаіць у прыгожым месцы, агароджана дрэўцамі. Словам, як самі бачыце, як карцінка! А да гэтага часу працавалі мы ў пяці будынках, нанятых у сялян. Раскіданы яны былі па сяле па 400 метраў адзін ад другога. Некаторыя «класы» былі такія, што школьныя парты не ўваходзілі ў іх. Мерзлі ды мучыліся нашыя вучні і мы, настаўнікі разам з імі. І вось цяпер мы адрадзіліся, адчулі, што жывём і працуем ва ўмовах, як людзі, як належыцца жыць і працаваць настаўнікам.

ІОСІФ НАВІЦКІ — КІРАЎНІК ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ Ў СКУПАВЕ ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА.

— Па праўдзе кажучы, то кожны дзень у настаўніцкай працы цяжкі і адказны. Але найцяжэйшым мне здаўся той дзень, калі прышлося весці ўрокі ў злучаных класах. І рыхтаваўся я да іх цэлымі вечарамі, і прадумваў загадзя кожны іх элемент, і вылічваў па гадзінніку. А калі ўрок ужо быў праведзен, я выходзіў з класа з адчуваннем пякучага незадавальнення з сябе, са свае працы. У малодшых класах дык яшчэ-яшчэ, можна вытрымаць, але ў старэйшых, дзе трэба многа даваць ад сябе і нямала патрабаваць ад вучняў — проста не хапала часу. І я зноў усё прадумваў ад пачатку ды рыхтаваўся яшчэ дакладней. Так павольна з кожным днём пачалі мае ўрокі ў злучаных класах «выходзіць», папраўляцца, станавіцца нармальнымі ўрокамі. Але ўсё ж лічу, што настаўнікам, які працуе ў злучаных класах, можа быць толькі віртуоз педагагічнай справы.

Найпрыгажэйшым у маім жыцці момантам быў дзень, калі я атрымаў дыплом заканчэння беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Гэта была самая ўрачыстая для мяне хвіліна. Я ж ніколі не вучыўся беларускай мовы, хоць і з'яўляюся беларусам. Проста так склалася маё жыццё. Нарадзіўся я ў Зубках каля Гарадка ў Беластоцкім павеце. У пачатковай школе там беларускай мовы не было тады. Потым у школе ў Вераб'ях, але і там беларускай мовы не было. Затым паступіў у агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку. Педагагічны клас канчаў у Ломжы. А працаваць давялося ў школах Гайнаўшчыны. Калі я паступіў на беларускую філалогію ЗНС у Беластоку, для мяне ўсё было абсалютна новым, пачынаючы ад самых простых спраў беларускага правапісу і самых агульнавядомых фактаў з гісторыі беларускай літаратуры. І я працаваў над сабою, працаваў з асаблівай ахвярнасцю і стараннасцю. І адчуванне маё было вельмі ж прыемнае: я пазнаваў сваю родную мову і нашу беларускую літаратуру, знаёміўся з гісторыяй свайго народа. Я ўнутрана, перад самім сабою, ганарыўся сваёй навукай на беларускай філалогіі. І вось наступіў дзень, калі выпускныя экзамены і абарона дыпломнай працы былі за мною. Я трымаю ў руцэ скромны ў сваім выглядзе, але як жа ж дарагі мне дыплом. Цудоўны гэта быў дзень!

*Размаўляў Мікалай Гайдук*

## І карысна і выхаваўча

У Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку Беластоцкага павета сіламі мясцовага грамадства і пры дапамозе Акруговага музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку ствараецца музей рэвалюцыйнага руху. Гэты пачын не выпадковы. Гарадок і яго ваколіцы ўнеслі ў развіццё рэвалюцыйнага руху ў міжваенны час і ў партызанскі рух у час гітлераўскай акупацыі свой адметны ўклад. У тыя суровыя гады выпрабаванняў і барацьбы ён атрымаў на Беласточчыне ганаровае званне «Чырвонага Гарадка». Узначальвае арганізацыйны камітэт музея яго грамадскі старшыня Янка Бараноўскі — кіраўнік пачатковай школы ў Гарадку.

Справай выяўлення і збірання экспанатаў у музей заняліся не толькі дарослыя гарадчане, але і школьная моладзь. Старэйшыя школьнікі адшукваюць былых дзеячоў рэвалюцыйнага руху, асабліва былых членаў КПЗБ, СКМЗБ, Грамады, ТБШ і ўдзельнікаў партызанскага руху. Лік барацьбітоў-ветэранаў з кожным тыднем павялічваецца ў спісе школьнікаў. Вучні разам з настаўнікамі знайшлі старыя здымкі першамайскіх дэманстрацый рабочых і сялян Гарадка ў міжваенны час, дакументы аб звальненнях з працы рабочых з прычыны панаваўшага тады беспрацоўя, ордэны і медалі, якія атрымалі гарадчане, служачы ў час вайны ў Савецкай Арміі і Войску Польскім, і шэраг іншых каштоўных экспанатаў.

Такім чынам пачатковая школа ў Гарадку спалучыла дзве надзвычай грамадска карысныя справы: па-першае, узбагачэнне музея каштоўнымі экспанатамі, па-другое, яна выхоўвае ў школьнікаў пашану да рэвалюцыйных традыцый сваіх дзядоў і бацькоў, а таксама вучыць любіць сваю мясцовасць і ганарыцца гераічным мінулым яе жыхароў.

(мг)

## Школа і бацькі

Пачатковая школа ў Крулёвым Мосце невялікая. У ёй вучыцца ўсяго 71 вучань. Усе класы тут спалучаныя і гэта з'яўляецца дадатковай цяжкасцю ў працы 5-ціасабовага настаўніцкага калектыву. У спалучаных класах, як вядома, вучні мусяць больш працаваць самастойна пад наглядам настаўніка. Дзеля дасягнення добрых вынікаў у навучанні школа разгарнула шырокае супрацоўніцтва з бацькамі. Яна праводзіць спецыяльныя штоквартальныя сустрэчы з бацькамі. На гэтыя сустрэчы настаўнікі рыхтуюць спецыяльныя даклады для бацькоў аб выхаванні маладога пакалення, а дзеці выступаюць з самадзейнымі канцэртамі. У гэтай школе вучнёўскія дзённічкі выкарыстаны для жывой сувязі настаўніка з бацькамі вучняў. Вельмі часта бацькі па запрашэнню настаўнікаў прысутнічаюць на ўроках у школе. Гэта надга карысна ўздзейнічае на працу і актыўнасць дзяцей на ўроках.

У апініі беластоцкага аддзела асветы школа ў Крулёвым Мосце, дзякуючы ахвярнай працы такіх вопытных настаўнікаў, як Вера Лясота і Алег Лясота (кіраўнік школы), належыць да ліку лепшых у Беластоцкім павеце.

(мг)

## Выстаўка савецкай прэсы

Прадпрыемства «Рух» арганізавала ў Доме настаўнікаў у Гайнаўцы выстаўку савецкай прэсы. Паказана 517 экспанатаў. Побач разложанай прэсы пры сцяне замацаваны планшы з дыяграмамі развіцця чытальніцтва савецкай прэсы на Гайнаўшчыне. Выстаўка карыстаецца вялікім зацікаўленнем, асабліва сярод моладзі. Варта адзначыць, што ў Гайнаўскім павеце савецкая прэса мае 2672 падпісчыкі.

(яц)



*Моладзь аглядае выстаўку савецкай прэсы.*
*Фота Э. Панецкі*

 

Пачатак на стар. 1

## Навука роднай мовы выхоўвае

з гераічным змаганнем польскага, беларускага і іншых славянскіх народаў супроць крыжацкай навалы ў XIV—XV стагоддзях, сувязямі выдатнага беларускага асветніка і кнігадрукара Г. Ф. Скарыны з прагрэсіўнымі польскімі вучонымі ў кракаўскім універсітэце ў XVI ст., з беларускімі і польскімі змагарамі «за нашу і вашу свабоду» ў XIX ст., адзінствам польскіх і беларускіх працоўных супроць санацыйных улад міжваеннай Польшчы, супольнай барацьбой беларускіх і польскіх партызанаў за вызваленне нашых народаў з-пад гітлераўскай акупацыі, брацкай дружбай і супрацоўніцтвам паміж Народнай Польшчай і народамі СССР у сацыялістычным будаўніцтве ў пасляваенны час. Значыць, навучанне роднай беларускай мовы ў школе выконвае велізарную ролю ў патрыятычным і інтэрнацыянальным выхаванні маладога пакалення. Патрыятычныя пачуцці і адчуванне інтэрнацыянальнага адзінства з польскім народам узмацняюцца і сталеюць у моладзі разам з тым, як яна ўвачавідкі пераконваецца і на ўроках беларускай мовы і ў штодзённым жыцці, што Польская аб'яднаная рабочая партыя і народны ўрад Польшчы гарантуе ўсім грамадзянам незалежна ад іх нацыянальнасці, расы ці веравызнання роўныя правы ва ўсіх галінах дзяржаўнага, палітычнага, гаспадарчага, грамадскага і культурнага жыцця.

Вось чаму і хочацца мне ў канцы свайго выказвання заўважыць, што тыя бацькі, якія не пасылаюць дзяцей на ўрокі сваёй роднай беларускай мовы, робяць ім вялікую крыўду. Крыўду тым большую, бо наша дзяржава — Народная Польшча — стварыла ўсім сваім грамадзянам умовы для навукі ў школе сваёй роднай мовы. І гэта трэба ўсім выкарыстаць.

*Мікалай Гайдук*




Прадпрыемства будаўлянай керамікі ў Сямяцічах з'яўляецца найбольшым прадуцэнтам кафлі ў краіне. Толькі 10 працэнтаў прадукцыі разыходзіцца ў нашым ваяводстве, а рэшта ідзе ў Польшчу. Запатрабаванні настолькі вялікія, што прадпрыемства не можа зрэалізаваць тэрмінова ўсіх заказаў. З гэтай прычыны сямяціцкае керамічнае прадпрыемства дасягнула за тры кварталы г.г. 7,7 мільёна зл. прыбытку. А гэта азначае, што рабочыя ў сярэднім зарабілі па 200 зл. больш у месяц. Адкрыццё рынку збыту на кафлі — гэта толькі адзін бок павелічэння заработкаў.

Другая справа — гэта тое, што людзі ў цагельнях прадаўжаюць сабе дзень працы, а гэта нязгодна з заканадаўствам працы. Зразумела, такога стану не адабрае дырэкцыя, але што яна можа зрабіць, калі такі рабочы ў Мілейчыцах, Нурцы ці Орлі прыдзе раненька і, дзякуючы мясцовым знаёмствам, уціснецца на завод і «клепле» гэтыя кафлі ці цэглу. Гаварыў я з такімі людзьмі. «Пане, — адказвалі мне, — мы хочам зарабіць больш, а вядома, кожны з нас мае кавалачак зямлі і мусіць яго таксама абрабіць».

Фактычна, праца ў цагельнях сямяціцкага керамічнага прадпрыемства надта цяжкая. Адна работніца за дзень перакідае 15 тон гліны, уфарміраванай у цэглу, і зарабляе ў месяц 1500 зл. Прычым гэтак бывае толькі тады, калі ў вытворчасці няма ніякіх перашкод. Калі яны ёсць, дык і гэтага не атрымлівае. Варта дадаць, што мужчыны не вытрымліваюць пры гэтай працы. З гэтага вывад адзіны: неабходна ўвесці тут механізацыю, нельга далей прадукаваць сярэдневяковымі метадамі.

Людзі мелі тут шмат заўваг не толькі адносна зарплаты.

Некаторыя таварышы, асабліва актывісты прафсаюзаў, звярталі ўвагу на несправядліва дзелены «фундуш закладовы». Гэтак званая ключовая прамысловасць адпісвае на гэты «фундуш» 5 працэнтаў ад агульнага фонду платы, а тэрэновая прамысловасць (да якой належыць прадпрыемства) мае права адпісваць толькі 3 працэнты. Усё гэта існуе нягледзячы на тое, што на тэрэновым прадпрыемстве людзі працуюць часта лепш, а паказчыкам гэтага з'яўляецца рэнтабельнасць.

Нямала было галасоў адносна дзейнасці ЗУС (Заклад убезпечэнь сполэчных). Хтосьці з прадстаўнікоў адміністрацыі прадставіў гэтую справу так. На прадпрыемстве працуе 400 чалавек. Кожны год прадпрыемства перадае для ЗУС паўтара мільёна злотых. З гэтага ліку каля паловы выкарыстоўваюць людзі прадпрыемства. А што дзеецца з рэштай гэтага фонду? Хочуць проста ведаць не падазраваючы нікога і нічога.

Больш складанай справай з'яўляюцца пенсіі. З аднаго боку, старэйшыя людзі не хочуць адыходзіць на пенсію, а з другога боку, гэтыя людзі да такой працы ўжо слабыя. Дырэктар прадпрыемства паясняе:

— Правялі мы маленькі аналіз на двух нашых заводах. У выніку аказалася, што там, дзе рабочы калектыў старэйшы, на 40 рабочых выпала па 12,2 дня захворванняў. А на тых заводах, дзе калектыў малодшы, прыпадае толькі 4—5 дзён захворванняў. Лекар часта піша, што данаму рабочаму трэба даць толькі лёгкую працу. Але дзе ж набраць гэтых лёгкіх прац у нашай цяжкай прафесіі keраміка?

Уласціва кажучы, прапановы керамікаў у адносінах да пенсіі зводзяцца да таго, каб патрактаваць іх працу як цяжкую і даць магчымасць адысці на пенсію людзям, прапрацаваўшым 35 год, што менш-больш азначае ў 60 год жыцця.

Тыповай аказалася справа выкарыстоўвання фонду на жыллёвае будаўніцтва. Прадпрыемства можа прыдзяляць гэты фонд толькі тым, хто жыве ў горадзе. А вядома, што большасць рабочых жыве на вёсках, маючы свае ўласныя дамы. Людзі хочуць іх рамантаваць, мадэрнізаваць, каб культурней жыць. Звяртаюцца на завод па пазыкі, а завод, хоць і мае грошы, не можа ім прыдзяліць, бо забараняюць гэта рабіць інструкцыі. І чаму так, — пытаюць рабочыя — жыхары вёсак, — ці мы горшая катэгорыя рабочых?

*Аляксей Карпюк*



## Шукаем рацыяналізатараў

Жыццё так нас гоніць наперад, што існуючыя прылады і машыны хутка робяцца ўстарэлымі. Існуе патрэба іх паляпшаць, рэканструяваць. Асабліва важная тут справа ўдасканальвання найпрасцейшых прылад і машын, якімі карыстаецца наш гаспадар.

Рацыяналізатарскае права дае магчымасць рэгістраваць рацыяналізатарскія праекты кожнаму грамадзяніну. З другога боку вядома, што сярод сялян-гаспадароў ёсць людзі, якія маюць вельмі цікавыя прапановы ўспраўненняў у сельскай гаспадарцы. Могуць гэта быць праекты з розных галін: успраўненне прыёму збожжа на пункце скупкі, механізацыя кароўнікаў, сельскагаспадарчых машын і іншыя.

Ва ўсіх гэтых справах звяртайцеся да мясцовых ПЗГС-аў або непасрэдна на адрас нашай рэдакцыі. (ак)

ЦІКАВЫ КОНКУРС



Вучні пачатковай школы № 5 у Гайнаўцы арганізавалі ў сябе конкурс на найлепшы плакат, прысвечаны VI з'езду ПАРП.

Выканалі яны 38 плакатаў, якія ўпрыгожваюць зараз цэхі, машынныя аддзяленні і вестыбюлі Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці. (яц)

*На здымку: вучні VIII класа А падчас малявання плакатаў.*

*Фота: Э. Панецкі*

## Людзі добрай работы

ЯНКА ПРАКАПЮК

Янка Пракапюк с. Данілы з Трывежы, Гайнаўскага павета, з'яўляецца адным з перадавых гаспадароў у Ласінскай грамадзе. Мае ён 7-гектаровую гаспадарку. Штогод засявае ён 2 гектары пшаніцай і 1 гектар жытам. Найлепшы ўраджай дае жыта «данькоўскае залатое» (28 цэнтнераў з 1 га) і пшаніцы (35 цэнтнераў з 1 га). Зернем жыта Янка Пракапюк абмяняўся з суседзямі, якія вырашылі завесці гэты гатунак у сябе.

Янка Пракапюк гадуе 6 кароў, ад якіх малако здае на мясцовым пункце скупкі малака.

У 1968 годзе пабудаваў ён прасторны хлеў, бо мае намер у будучыні павялічыць пагалоўе свіней.

Янка Пракапюк ад 1959 года з'яўляецца нязменна сакратаром мясцовай партарганізацыі. Варта адзначыць, што на апошнім партсходзе члены ПАРП у Трывежы абавязаліся ў гонар VI з'езда партыі выгадаваць і здаць дзяржаве звышпланава па адным вепруку. Апрача партыйнай функцыі Янка Пракапюк працуе бухгалтарам у мясцовым сельскагаспадарчым гуртку. Дадатковыя абавязкі выконвае паспяхова. (яц)




## Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ЮРЫДЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА — ПРАЦЯГ. ЛІТОЎСКІ СТАТУТ

Нямала параграфаў статута было прысвечана класавай структуры тагачаснага грамадства. Няма сумненняў, што статут санкцыянаваў феадальную сістэму. Можам аднак гаварыць і аб пэўнай, зразумела, абмежаванай, ступені дэмакратычнасці гэтай сістэмы. Зыходзячы з непарушнасці падзелу тагачаснага грамадства на шляхту і сялян, статут кіруючую і пануючую ролю ў сістэме прызнаваў за шляхтай. Праўда, падкрэсліваў ён патрэбу справядлівасці ў адносінах да ўсіх грамадзян княства, аднак формы гэтай справядлівасці мелі акрэслівацца пануючым класам. Такім чынам справа справядлівасці для сялян павінна была быць як бы справай гонару шляхты, а не яе элементарным абавязкам.

Аднак і шляхта мела свае абавязкі. Перш за ўсё статут падкрэсліваў абавязкі абароны айчыны. Цяжар звычайнай абароны краіны статут клаў на плечы шляхты. Кожны, хто б унікаў абароны краіны або ўцёк хоць бы з поля бою, меў быць пазбаўлены маёмасці. «Хто бы з бітвы утёк, таковый за слушным доводом от гетмана через вырок нашъ господарскі іменіе і честь тратіть».

Сялянам і «люду простаму» ў статуце адводзіцца значнае месца. З аднаго боку гаворыцца аб тым, што сялянства стан вольны. Аднак вольнасць гэтая мае вельмі абмежаваны характар і зводзіцца па сутнасці да выбару пана. Яшчэ больш класавы характар статута выступае пры пераліку кар за злачынства. У такім выпадку сацыяльнае паходжанне злачынцы мела вельмі істотнае значэнне. Чым «ніжэйшае» было сацыяльнае паходжанне злачынцы, тым вышэйшай была для яго кара. Асабліва сурова караліся злачынствы, прычыненыя сялянамі шляхцічам. За пашкоджанне цела статут прадбачваў скалечанне віноўніка. Калі ў часе бойкі шляхцічу адрэзалі сяляне або «чэлядзь» вуха ці нос, выбілі вока ці зубы, то суд павінен быў засудзіць іх на страту той самай часткі цела. Зрэшты, паслухайце арыгінал статута: «которому шляхцічу або шляхтенце руку, ногу, нос, ухо, губу, утел або урэзал так жэ бы праве проч, который с тех члонков отпал, або бы око, зубы вытел, альбо выбіл, альбо на око ослепіл... уставуем іж за таковый каждый члонок маеть теж таковый члонок утять і урэзан або выбіть быті».

Адзін з параграфаў быў прысвечаны «зладзействам усякага стану». Кары за пакражу былі несумненна высокімі. Асабліва суровыя кары прапанаваліся ў адносінах да людзей, якія ўкралі што-небудзь на княжаскім ці каралеўскім двары. У такіх выпадках, калі пакража датычыла сярэдневартаснага прадмету, прымянялася, як правіла, смерць. Але нават тады, калі нехта ўкраў прадмет нязначнай вартасці (менш рубля), то і так статут прадбачваў страшэнныя прыгаворы. Яшчэ раз паслухайце статут: «Тех хто бы на дворе нашом господарском што вкрал, а то бы стояло меншэ двух коп грошэй, а шла бы тая рэч не о горло і правом бы то на него перэведено альбо ліце вынято таковому маюць ухо одно урэзаті, а потым еслі бы што вкрал, бы теж краденая рэч і десять грошэй стояла тогды вжэ горлом маеть быті каран».

З прыведзенага фрагмента бачым, што страшна сурова каралася паўторная крадзеж. Пры другой пакражы, нават тады, калі ўкрадзены прадмет не каштаваў дзесяці грошай, злодзея каралі смерцю. Зразумела, што раздзел «аб пакараннях» не быў у статуце выпадковы. Статут цвёрда стаяў на грунце непахіснасці феадальнай уласнасці, і таму кожная рука, якая працягвалася ў бок гэтай уласнасці, мела быць абцятай.

Святое права ўласнасці моцна было падкрэслена таксама ў адносінах да палявання на звярыну на чужой зямлі або ў чужым лесе. Статут прадбачваў вялікія грашовыя кары для ўсіх, хто забіў звера на чужым палетку. І так, за зубра трэба было плаціць — 12 рублёў, за лося — 6 рублёў, за мядзведзя — 3 рублі, за дзікага кабана — 1 рубель, за сарну — копу грашоў, за куну — паўкопы грашоў.

Цікавым раздзелам статута з'яўляецца раздзел, прысвечаны сямейнаму заканадаўству. У гонар статута трэба аднесці той факт, што моцна бараніў ён бацькоў і параўнаўча невялікія правы даваў дзецям. Між іншым прадбачваў, што бацькі могуць адрачыся ад сваіх дзяцей і аказваць ім матэрыяльную дапамогу. Аднак было гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі дзеці былі дарослымі і калі захоўваліся нягодна. Статут называе вялікую колькасць прычын, з-за якіх бацькі маглі адрачыся ад сваіх дзяцей. Вось некаторыя з іх:

1) калі сын або дачка скрыўдзяць бацькоў фізічна (удэрaць або папіхнуць у гневе),



 

# Адам Мальдзіс

## У ГДАНЬСКУ

Значнай падзеяй у жыцці гданьскага аддзела БГКТ была сустрэча яго членаў і сімпатыкаў з вядомым даследчыкам беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей, працаўніком АН БССР, доктарам філалагічных навук Адамам Мальдзісам.

А. Мальдзіс у Польшчы ўжо трэці раз. На працягу трох месяцаў наведае рад архіваў і бібліятэк, каб дакладней пазнаёміцца з іх фондамі і выявіць дагэтуль мала вядомыя ці наогул зусім новыя крыніцы і матэрыялы, адлюстроўваючыя літаратурны рух Беларусі ў XVIII стагоддзі. Якраз гэты перыяд яшчэ недастаткова вывучаны і патрабуе доўгіх, часам вельмі карпатлівых пошукаў.

Удзельнікі сустрэчы, якая адбылася 31 кастрычніка, з вялікай увагай выслухалі цікавы даклад А. Мальдзіса. Гаварыў ён аб зараджэнні і развіцці беларуска-польскіх літаратурных узаемаадносін ды і наогул культурных сувязей.

Матэрыял дакладна ахопліваў вялікі перыяд: ад Францішка Скарыны да нашага часу. Асабліва шмат увагі прысвяціў А. Мальдзіс пытанню ўздзеяння беларускай вуснапаэтычнай творчасці на творчасць Адама Міцкевіча, а беларускага народнага меласу — на Міхала Клеафаса Агінскага і Станіслава Манюшку. Як адзначыў, зусім нядаўна давялося яму выявіць у Вільні тэксты беларускіх песень касцюшкоўскіх паўстанцаў. Удзельнікі сустрэчы дведаліся, у прыватнасці, што пяру сучаснага беларускага пісьменніка Пятра Бітэля належыць поўны пераклад «Пана Тадэуша».

А. Мальдзіс падкрэсліў, што характар беларуска-польскага культурнага яднання вызначалі кроўныя інтарэсы працоўнага люду, нашых народаў, якія вельмі часта супольна змагаліся супроць царскага самадзяржаўя і ўласных маёмасных класаў.

Дакладчык адказваў на шматлікія пытанні. Датычылі яны не толькі тэмы даклада, але і сучаснага культурнага жыцця БССР, разбудовы Мінска, а таксама падрыхтоўкі да адзначэння ў 1972 годзе шэрагу знамянальных гадавін, а перш за ўсё 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа.

За наведанне гданьскага беларускага асяроддзя, за каштоўны даклад сардэчна падзякаваў госцю Аляксандр Юзэфовіч, які супольна з Мацеем Канапацкім вёў сустрэчу.

Варта адзначыць, што аддзел БГКТ у Гданьску робіць таксама захады вакол падрыхтоўкі новых цікавых сустрэч: з пражываючай ў Сопаце ўнучкай Францішка Багушэвіча Канстанцыяй Пшэднікоўскай і гданьскім пісьменнікам Збігневам Жакевічам.

Некаторыя творы З. Жакевіча абапёрты на рэаліях беларускага жыцця. Гэты факт у пэўным сэнсе яднае пісьменніка з такімі ўжо вядомымі чытачам «Нівы» пісьменнікамі, як Эмілія Кунавіч, Яўгень Кабац ці Тытус Карповіч.

У снежні аддзел адзначыць 50-ую гадавіну з дня нараджэння доктара філалагічных навук Сцяпана Александровіча, вядомага пісьменніка і даследчыка беларуска-польскіх літаратурных сувязей. У свой час «Ніва» змяшчала яго нарыс на гэтую тэму.

*(Эмка)*

## ...І Ў БЕЛАСТОКУ

Адам Мальдзіс пабываў таксама на Беласточчыне. 5 лістапада сустрэўся ён з вучнямі міхалоўскага і гайнаўскага ліцэяў, 6 лістапада — з вучнямі бельскага ліцэя і з жыхарамі Орлі, а 7 лістапада наведаў ВП ТППР у Беластоку і ГП БГКТ, дзе таксама адбыліся сустрэчы беларускага даследчыка з актывістамі ТППР і членамі прэзідыума ГП БГКТ. Усе гэтыя сустрэчы былі вельмі карысныя, паглыбілі яны нашы веды аб сувязях двух братніх народаў.

## ЖЫВЫ Ў ПАМЯЦІ ДАШАВЯН

Нікому невядома яго імя і прозвішча, ніхто не даведаецца, адкуль ён паходзіў. Верасеньская трагедыя 1939 года набліжалася к канцу. Відаць, яго вайсковая часць была разбіта недзе, і ён бакавымі дарогамі, пералескамі, здалёк ад рухлівых трактаў, вёсак і мястэчак прабіраўся да сваіх родных мясцін, да свае хаты. І тут, пад Дашамі Гайнаўскага павета яго схапілі гітлераўскія патрулі. Высвсненні і тлумачэнні былі непатрэбны, іх нават не слухалі фашысцкія захопнікі. У полі, за вёскай зажаўцеў копчык свежай магілы па невядомым салдаце...

Але людзі не маглі забыць аб ім, невядомым абаронцы іх жыцця, аб яго трагічным канцы. Магілай невядомага салдата заапекавалася школьная моладзь разам са сваімі настаўнікамі з Дашоў. Яны апякуюцца магілай, прыносяць жывыя кветкі і ўскладаюць вянкі. Невядомы салдат застаецца жывым у сэрцах дашавян.

(мг)



2) калі дзеці пазбавяць бацькоў іх багацця і маёмасці,

3) калі дзеці абгаварваюць бацькоў сваіх,

4) калі дачка зыйдзе на шлях распусты,

5) калі дзеці пакідаюць старых бацькоў і не даюць ім утрымання.

Значнае месца ў статуце займае справа выбараў у сейм, у тагачасную адміністрацыю і ў суды. Падкрэслівалася, што ва ўсе органы павінны выбірацца людзі справядлівыя, папулярныя і ведаючыя мясцовую мову.

Акадэмік Е. Карскі падкрэслівае залежнасць Літоўскага статута ад рымскіх і польскіх заканадаўчых актаў, пры гэтым аднак гаворыць, што беларускі дакумент, у сваю чаргу, уплываў і на польскае законадаўства і перад усім на заканадаўства Маскоўскай Русі. «Литовский статут не мог, в свою очередь, остаться без влияния на законодательство соседних государств — Росии и Польши». Е. Карский. Белоруссы, т. III. ч. II. Петроград 1921, с. 126.

Галоўнае значэнне статута для нас заключаецца ў тым, што ўзводзіў ён беларускую мову да рангу мовы дзяржаўнай, і што сам быў напісаны на гэтай жа мове.

# АШЧАДНЫ -БАГАТЫ

Напісаў я вось гэты загаловак для свайго артыкула і тут жа задумаўся: ці сапраўды яно так, ці заўсёды ашчадны бывае багатым?

Пішам жа, гаворым і чуем: бедная, занядбаная, адсталая Беласточчына, якая з апошніх перакладзін статыстычнай драбінкі сумна глядзіць угору на свае сястрыцы — ваяводствы і з пакаяннем б'ецца ў грудзі за тое, што ў яе наймарнейшы ўраджай, найбольш аблогаў, што хлебаробы не надта ж энтузіястычна адносяцца да штучных угнаенняў, што мала грошай на капіталаўкладанні... Так, мы ўжо прызвычаіліся да гэтага.

Дык я і не адразу паверыў сваім вушам, калі дырэктар ваяводскага аддзялення ашчадна-пазыкавых спулдзельняў заявіў, што сяляне Беласточчыны па колькасці сваіх ашчаднасцей, складзеных у касах СОП, выпярэджваюць сваіх сяброў па прафесіі з Гданьскага, Кашалінскага, Альштыньскага, Шчэцінскага і Зялёнагурскага ваяводстваў. Гэта ж усё багатыя, праслаўленыя сваімі землямі (хаця б — Жулавы!) і добрымі ўраджаямі ваяводствы.

На працягу васьмі месяцаў г.г. сяляне Беластоцкага ваяводства накапілі на ашчадных кніжках у ашчадна-пазыкавых спулдзельнях *амаль 836 мільёнаў злотых*. Варта прызадумацца над гэтай сумай грошай. Праўда, яна раскладаецца на нейкіх 190 тысяч гаспадароў — уласнікаў ашчадных СОП-аўскіх кніжак, аднак, беручы статыстычна, дык і так амаль што 4,5 тысячы залатовак прыпадае на адну кніжку. З 836 мільёнаў злотых сялянскіх ашчаднасцей каля палавіны прыпадае на ашчаднасці пастаянныя, шматгадовыя, якіх сяляне не спяшаюцца кранаць, пакуль не прымусіць іх да гэтага нейкая вялікая бяда.

Праўда, на такую форму ашчаднасці могуць дазволіць сабе болей заможныя гаспадары. Такіх гаспадароў знайшлося ў ваяводстве ўсяго каля 15 тысяч. Затое на іх ашчадных кніжках, калі б роўна ўсіх абдзяліць, накапілася ўжо па 23 тысячы зл.

Дык як яно ёсць, — думаю, — з гэтай ашчаднасцю і багаццем? Калі прыслухоўваюся да лікаў, дык выходзіць, што з году ў год сялянскія ашчаднасці павялічваюцца.

І тут жа прыгадваецца мне адно выступленне прадстаўніка вельмі сур'ёзнай установы ваяводскага ўзроўню, які ў Гайнаўцы на сесіі павятовай рады грымеў з трыбуны:

— Калі Беласточчына апошняя ў краіне, дык Гайнаўскі павет апошні ў Беластоцкім ваяводстве!

Прадстаўнік — малады, энергічны, адукаваны чалавек — грымеў пераканаўча. І ў сельскагаспадарчым хвасце Беласточчыны, тут жа за Гайнаўскім, паставіў Бельскі, Дуброўскі, Сямяціцкі, Сакольскі паветы і частку Беластоцкага.

І зноў маё здзіўленне. Бо вось жыхары гэтай апошняй у статыстычных сельскагаспадарчых ваяводскіх паказальніках Гайнаўшчыны па суме залатовак, што прыпадаюць на адну ашчадную СОП-аўскую кніжку, занялі ў гэтым годзе ў ваяводстве аж пятае месца, пятае сярод 19 паветаў, пятае і то зараз за Бельскім паветам! За тым паветам, якому не менш ад Гайнаўкі даставалася па галаве за сваю адсталасць. Выпярэджвае іх толькі раён ЭГО. А калі яшчэ бліжэй прыгледзімся да вынікаў сёлеташняга накаплення ашчаднасцей, дык зноў даводзіцца здзіўляцца. Бо як жа не здзіўляцца, калі бачыш і чуеш, што такі бедненькі павет, як Сямяцічы, на другім месцы ў ваяводстве (пасля Беластоцкага павета) па колькасці сялян, якія маюць сопаўскія кніжкі. Гэтыя ж Сямяціцкі і Беластоцкі паветы таксама выпярэджваюць усе іншыя па колькасці заашчаджаных сялянамі грошай. Тут жа за імі ідзе Бельскі, і не вельмі ад іх адступаюць Гайнаўскі і Сакольскі паветы.

Дык як яно: ашчадны — багаты? Ведаю толькі адно: хто ашчадны — можа быць багатым. Можа пры выдатнай падтрымцы ашчадна-пазыкавай спулдзельні пабудаваць сабе дом ці іншыя будынкі, бо гэтая арганізацыя гарантуе яму атрыманне ў першую чаргу будаўнічых матэрыялаў і дае пазыку. А незадоўга ўжо, хто ашчадны, зможа сабе купіць трактар або іншыя дарагія сельскагаспадарчыя машыны. Бо шукаючы новых форм ашчаднасці, СОП рашыў устанавіць ашчадныя кніжкі, прэміяй для якіх былі б менавіта трактары, сельскагаспадарчыя машыны. Варта тады жыць ашчадна.

*М. Нурэцкі*

# Фестываль Савецкіх Фільмаў — 1971



*Кадр з фільма «Кароль Лір».*



*Кадр з фільма «Праездам у Маскве»*



*Кадр з фільма «Чырвоная Плошча»*



*Кадр з фільма «Беларускі вакзал»*

У лістападзе распачаўся штогадовы фестываль савецкіх фільмаў. У гэтым годзе ў дні гэтага фестывалю ўвайшло на нашыя экраны 9 новых фільмаў: «Вызваленне», «Чырвоная Плошча», «Беларускі вакзал», «Кароль Лір», «Чырвоная палатка», «Сем дзяўчат сяржанта Збруева», «Рэзідэнт разведкі», «Увага, чарапаха!», «Праездам у Маскве».

Палавіна з іх будзе дэманстравацца ў вясковых кіно, на плёнцы 16 мм. Урачыстае адкрыццё фестывалю ў ваяводстве адбылося ў кіно «Покуй» у Беластоку фільмам «Вызваленне», дзве серыі, на шырокай плёнцы 70 мм. Гэтым фільмам кіно «Покуй» адкрывае свае дзверы для наведвальнікаў пасля рамонту. Кіно «Покуй» з'яўляецца цяпер адзіным у ваяводстве, якое дэманструе фільмы на плёнцы 70 мм. А ў Польшчы такіх кіно ўсяго 9.

На ўрачыстасці адкрыцця прысутнічалі савецкія госці.

З некаторых новых савецкіх фільмаў даем здымкі.

(вл)

## МАКСІ — МІДЗІ — МІНІ

— Вось, глянь, — тоўкнула локцем Язэпава Верка Маньку Максімаву, — Лёлька Стэпчукава ў новай сукенцы выйшла. Аж у самым Беластоку, кажуць, шыла. Нашыя краўчыхі баяліся — надта ж модная мела быць. Максі звецца, ні то што. Да самай зямлі!

— Ну і мяце, ну і горне, — дзівавалася Манька Максімава, шчаку рукою падпёршы. — Што за тыдзень быдла ды авечкі на вуліцы пакінулі — усё вычысціць. Ззаду пыл, вунь, стаўпом...

— Ты, кумо, — папракнула яе Язэпава Верка, — на Лёльчын зад не ўзірайся, даволі, што нашыя мужыкі вочы пакасілі ўглядаючыся. Ты вось спераду падзівіся.

— Цьфу, бессаромніца паганая, — закудахтала Манька Максімава. — То ж яна да самага пупка голая! — і рукамі ўсплеснула.

— От, да самага мо і не, — удакладніла Верка, — але на пядзю ніжэй пупа — то ўсё голае.

— Ну, як ты, Верка, хочаш, але я гэтую бясстыжую адшпару. Я ёй дам пад маімі вокнамі з такой распоркай шляцца. Бач, яшчэ і назву якую выдумала— «максі». Гэта ж яна так пад майго Максімадурня падвальваецца...

І тут Манька закруцілася, бы юла, шукаючы якую-колечы качарэжку на Лёльку-бессаромніцу. Але як на тое з Міхальчынага панадворка выкаціўся шчанюк Цюлік, ды кулём да Лёлькі і ззаду за падол сукенкі зубамі ўчапіўся.

Вядома ж, шчанюкам заўсёды ахвота за ўсё валачушчае ўхапіцца.

Лёлька верць-круць сукенкаю, а шчанюк хоць бы што — ушчаперыўся, аж падол трашчыць. Яна яго абцасам, а шчанюк у гвалт, заенчыў, заскуголіў, бы яго тут рэзалі. Пачула гэтыя енкі Міхальчына сука. Мацярынскае сэрца не вытрывала, што дзіця ягонае крыўдзяць. І яна — гыц на вуліцу. Ну, тут і пачалося.

Лёлька спачатку выкручвалася, нагамі адбівалася, а потым наўцёкі кінулася, цэлую палу ў сабачых зубах пакінуўшы. Але сабакам гэтага замала выдалася. Яны за Лёлькай наўздагон.

— Рату-у-уйце! Людко-о-ове, ратуйце! — загаласіла бедная Лёлька на ўсё сяло.

Калі ўжо з Лёльчынай максі стала мідзі, Язэпава Верка не стрывала:

— Ратуйма, кумо!

— Але, — згадзілася Манька Максімава, — а то зусім голая пад маімі вокнамі вяртацца будзе.

І абедзве кумы Лёльку бараніць падаліся. Пакуль сабак разагналі, у Лёлькі адно міні недзе там ля пояса брэнталася.

Так і ляснула ні пра што Лёлькі Стэпчуковай модная сукенка.

*Авадзень*



*— Ты, сынок, тэпай сам, а мне трэба бацьку несці.*

# НІУКА



## Талавaломка



На гэтым рысунку шэсць геаметрычных фігур. Падлічыце, колькі фігур кожнага віду.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### У НЕМЦАЎ

Настаўнік: «Што разумеюць пад работай калектыву?»

УВЭ: «Калектыўная работа, гэта, калі Клаус робіць дамашнія заданні, а мы ў яго іх спісваем».

### ПРЫМАЎКА ДАРЭЧЫ

Ізраільскі салдат, каб падбадзёрыць араба, гаворыць:

— Там добра, дзе нас няма!

— Што праўда, то праўда; там добра, дзе вас няма, — адказаў той.

### БАЛБАТУХА

Настаўнік запісаў у дзённік вучаніцы: «Марыся — страшная балбатуха». Назаўтра Марыся прыносіць дзённік з адказам бацькі: «А калі б вы паслухалі яе маці!»

### ДЗЕДАВА ПЫТАННЕ

— Вось да гэтых, — кажа лектар, —
Розных зорак і планет
Паляцяць з зямлі ракеты,
Каб увесь пазнаць сусвет.
—Дык жа гэта потым будзе.
А цяпер, — пытае дзед, —
Як змаглі уведаць людзі
Назвы зорак і планет?

### ХТО ЦЯЖЭЙШЫ?

Нейк пан спытаў селяніна:
— Скажы, хто цяжэйшы — разумны ці дурань?
— Дурань цяжэйшы, — адказаў селянін.
— Чаму? — дапытваецца пан.
— Таму, што вас возіць аж трое коней, а мне хопіць аднаго.

### У ЗААПАРКУ

— Малыш, убачыўшы ў заапарку сланіху і сланятка, здзіўлена пытае маці:
— Мамачка, а як з'яўляюцца на свет сланяты? Вуслу ж іх не падняць.

### ДАПАМАГАЛА

— Насцейка, чаму ж у цябе такія брудныя рукі?
— Дык гэта я пазаўчора дапамагала маме мыць посуд.



*Да вясны.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### Дзявочая лірычная

*Словы А. Дзержынскага*
*Музыка М. Шуміліна*

Хвалі ціха, ціха калыхаюцца,
Вецер лашчыць хустачку маю,
Твой гармонік звонка заліваецца
Я аднак на беразе стаю. (2 разы)

Неба ў зоры ясныя расквечана,
Месяц тоне ў рачной вадзе,
Ты іграеш з надыходам вечара,
Да мяне чамусьці не ідзеш.
(2 разы)

Ой, пара вячэрняя сустрэчная,
Мы з табой шчаслівыя стаім,
Ты сыграй мне, як сады зарэчныя
Абудзілі песняй салаўі. (2 разы)




### АДЗІНЫ СПОСАБ

Тэлефонны званок у кабінеце дзяжурнага ўрача:

— Доктар, вы можаце мне сказаць аб стане здароўя пацыента Яна Кавальскага з палаты 12?

— Яшчэ не апрытомнеў.

— А калі, па-вашаму, ён апрытомнее?

— Калі будзе ўсё добра, у бліжэйшую сераду!

— Вельмі ўдзячны.

— Даруйце, а хто звоніць?

— Ян Кавальскі. Гэта адзіны спосаб даведацца ў гэтай праклятай бальніцы, колькі мяне тут яшчэ будуць трымаць.



*Спадзяюся, на дыване мама выдахнецца!*

### ШТО ЛЕПШ

Да Катона Старэйшага звярнуўся адзін яго гарачы прыхільнік і сказаў:

— Як здарылася, што да гэтага часу ў Рыме табе не пастаўлен помнік? Гэтым варта заняцца.

Кінь ты! — адказаў яму Катон. — Я лічу за лепшае, каб людзі гаварылі: «Чаму Катону няма помніка?», чым яны будуць задаваць сабе пытанне: «Чаму гэта Катону паставілі помнік?»

### ХІБА НЕ ТРАПІЛІ?

Сядзіць стары дзед на сонцы, костачкі грэе. У гэты час у горад цар прыехаў, і ў гонар гэтай падзеі з гарматы выстралілі. А стары і пытае ў прахожага:

— Што гэта так гукнула?

— Ды цар да нас прыехаў!.,

— А-а... — працягнуў дзед.

Праз нейкі час цар пакідаў горад. І ў гонар яго ад'езду зноў з гарматы выстралілі. Стары зноў спытаў прахожага:

— А гэта што так бухнула?

— Ды цар ад'язджае! — адказаў той.

— А што, хіба з першага разу не трапілі ў яго? — спытаў дзед.



*Да прыяцеля ў кут!*

### У АФРЫЦЫ

Турыст у афрыканскіх джунглях бачыць на паляне мясцовага жыхара, які без стомы б'е ў тамтам.

— Што вы робіце? — пытае турыст.

— У нас ужо некалькі дзён няма вады.

— Ага, разумею, — з паблажлівай усмешкай гаворыць турыст. — Вы моліце неба аб дажджы?

— Глупства! Проста я клічу слесара.

### ЦІ ВІНАВАТА СВІННЯ?

— Ведаеш, мужаньку, — кажа жонка, — трэба закалоць свінню, бо якраз мінае дваццаць пяць год як мы пажаніліся.

— Ой, жонка, навошта ж яе калоць? — адказаў муж. — Ці ж гэта свіння вінавата?



*— А гэта, напэўна, школа касманаўтаў.*

## Курёзы

### НЕВЯДОМАЯ ЖЫВЁЛІНА

Японскія рыбакі з рыбалавецкага судна «Кампіра-мару» сцвярджаюць, што бачылі невядомага марскога звера з вытарашчанымі, шырокімі, як спадачак, вачыма, які напамінаў вялізнага бегемота. Яго галава ўзвышалася на паўтара метра над паверхняй акіяна і была падобна на галаву бегемота. У суднавым журнале «Кампіра-мару» запісана, што страшыдла было заўважана за 40 кіламетраў ад паўвострава Літэнтол (Новая Зеландыя). Глыбіня ў гэтым раёне Ціхага акіяна — каля 40 метраў.

Паводле слоў членаў каманды, у той час, калі судна наблізілася да невядомага звера на адлегласць 30 метраў і гарпунёр пачаў прыцэльвацца, жывёліна апусцілася пад ваду.

### СПАБОРНІЦТВА СПРЫТНЫХ І СМЕЛЫХ

Дзесяты раз югаслаўскі кінааператар Эмір Валіч стаў пераможцам адзінага ў сваім родзе традыцыйнага спаборніцтва, якое з даўніх часоў праводзіцца ў горадзе Мостар. Ён скокнуў з самага высокага ў горадзе моста (сярэдняя частка яго 30 метраў у вышыню) у цёмныя воды хуткай і халоднай Нярэтвы.

Гэтаму мастацтву смелых мостарцы вучацца з дзяцінства. Усе пакаленні жыхароў Мостара мелі сваіх рэкардсменаў па скачках у Нярэтву. Спаборніцтвы з кожным годам прыцягваюць усё больш удзельнікаў, і яго назіраюць тысячы гледачоў. У гэтым годзе ў барацьбе за званне спрытнага і смелага ўдзельнічала больш за 30 чалавек. Эмір Валіч аказаўся пераможцам у скачках «ластаўкай», а Мірсаад Пашы-Дзеда — у скачках стоячы.




*На вяршыню ўзыдзеш тады, калі будзеш больш імкнуцца да глыбіні.*